Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# Настаўніцкая газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 34(5365)
Аўторак,
19 сакавіка
2002 года

Маніторынг

## Якасць адукацыі будуць даследаваць сацыёлагі

***Пачынаючы з красавіка Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь плануе праводзіць сацыялагічны маніторынг якасці навучання і выхавання навучэнскай моладзі. Пытанні якасці адукацыі рэгулярна вывучаюцца органамі кантролю, якія функцыяніруюць пры міністэрстве, а вось менавіта сацыялагічнае даследаванне ажыццяўляецца ўпершыню.***

Само паняцце маніторынгу прадугледжвае замеры грамадскай думкі, якія паўтараюцца праз пэўныя інтэрвалы часу, па аднолькавых выбарках і з адным і тым жа наборам пытанняў. Гэта дае магчымасць прасачыць, як змяняецца сітуацыя, ацаніць дынаміку і, адпаведна, спрагназаваць нешта на будучыню.

– Маніторынг неабходны для таго, каб Міністэрства адукацыі своечасова атрымлівала дакладную інфармацыю аб сітуацыі, якая склалася ў гэтай сферы, – гаворыць Давід Генрыхавіч Ротман, намеснік старшыні Каардынацыйнага савета па сацыялагічнаму маніторынгу якасці навучання і выхавання навучэнскай моладзі. – Яго вынікі будуць выкарыстоўвацца для прыняцця кіраўніцкіх рашэнняў, для праверкі эфектыўнасці і карэкціроўкі мер, якія прымаюцца ў ходзе адукацыйнай рэформы. Два разы на год – вясной і ўвосень – будзе вывучацца духоўны свет, каштоўнасныя арыентацыі навучэнскай моладзі, праблемы, звязаныя з якасцю выхавання і адукацыі, у пэўнай ступені будуць закрануты пытанні дывіянтных паводзін. Хутчэй за ўсё, манінторынг дапаможа стварыць партрэт маладога чалавека – школьніка, навучэнца, студэнта. Аб'ектам вывучэння стануць таксама і меркаванні бацькоў, педагогаў, выхавацеляў, кіраўнікоў устаноў адукацыі.

Першая серыя замераў запланавана на красавік. Цяпер ужо вядзецца падрыхтоўка: распрацоўваецца агульная праграма маніторынгу, методыка яго правядзення, інструментарый, рыхтуюцца апытальныя лісты. Пакуль нельга сказаць, якой будзе выбарка. Яе вызначаць тады, калі канчаткова будуць ацэнены база, магчымасці, прафесійны ўзровень сацыялагічных службаў, якія прыцягваюцца да ўдзелу ў маніторынгу.

На першым этапе, у час вясенняй серыі даследаванняў, будуць ужывацца ў асноўным апытальныя метады. Калі спатрэбіцца, будуць праводзіцца сфакусіраваныя інтэрв'ю. Магчыма, давядзецца звярнуцца да метадаў, звязаных з аналізам дакументаў. Апытальныя метады, як правіла, праводзяцца па месцы жыхарства, твар у твар з рэспандэнтам і прадугледжваюць выкананне адзіных правілаў, якія задаюцца ўсім інтэрв'юерам, што дзейнічаюць на тэрыторыі ўсёй рэспублікі. І калі гэтыя правілы бездакорна выконваюцца, пачынаюць працаваць законы верагоднасці , і выбарка па сваіх характарыстыках дакладна ўзнаўляе мадэль генеральнай сукупнасці. Калі выбарка – кантынгент рэспандэнтаў – не адлюстроўвае ўласцівасцей генеральнай сукупнасці, гэта можа прывесці да скажэння агульных вынікаў даследавання. І адпаведна, ад рашэнняў, што будуць прыняты на іх аснове, у лепшым выпадку не будзе ніякай карысці, а ў горшым – толькі шкода. Звычайна прафесійныя сацыялагічныя службы займаюцца не толькі зборам інфармацыі, але ажыццяўляюць і кантроль за тым, як працуюць інтэрв'юеры. Як правіла, 10–12 працэнтаў масіву падлягае праверцы. Толькі такім чынам можна атрымаць аб'ектыўныя вынікі.

На сённяшні дзень ужо вызначана кола ВНУ, якія будуць ажыццяўляць даследаванні. Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту нададзены функцыі галаўной установы пры правядзенні маніторынгу, а менавіта – Цэнтру сацыялагічных і палітычных даследаванняў БДУ. І нездарма.

– У Цэнтры назапашаны вялікі вопыт, і нашы спецыялісты неаднаразова праводзілі падобныя даследаванні ў такім жа прыкладна рэжыме – рэжыме маніторынгу, – паведаміў Д.Г.Ротман, які з'яўляецца дырэктарам Цэнтра сацыялагічных і палітычных даследаванняў Белдзяржуніверсітэта. – Пачынаючы з 1987 года і да распаду Савецкага Саюза ў межах праграмы "Грамадская думка" мы вывучалі адукацыйныя праблемы, праводзячы замеры два разы на год. Тады гэта было звязана з перабудовай, якая закранула і сістэму адукацыі.

А традыцыі Цэнтра бяруць пачатак аж з 1968 года, калі ў БДУ была створана лабараторыя – менавіта яна стала першай сацыялагічнай службай на Беларусі. На працягу дзесяцігоддзяў лабараторыя пераўтваралася, змяняла назвы і функцыі і з 1996 года існуе ў якасці Цэнтра сацыялагічных і палітычных даследаванняў. Сёння ён займаецца вывучэннем грамадска-палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў краіне, ажыццяўляе электаральныя і маркетынгавыя даследаванні, вывучае міжнацыянальныя і міжканфесіянальныя праблемы. Цэнтр удзельнічае ў мностве міжнародных праграм у рамках СНД і Еўропы. Яго апытальную сетку складаюць 250 інтэрв'юераў, якія жывуць у іншых гарадах і супрацоўнічаюць з Цэнтрам у вольны час – займаюцца зборам інфармацыі на тэрыторыі ўсёй краіны. У спецыяльных падраздзяленнях Цэнтра апрацоўваюць і аналізуюць атрыманыя даныя.

Ідэя існавання сацыялагічных службаў пры ВНУ мае шмат пераваг, што пацверджана і аналагічнай практыкай еўрапейскіх і амерыканскіх універсітэтаў. Гэта дазваляе сумяшчаць навуковыя даследаванні з вучэбным працэсам. Большасць супрацоўнікаў Цэнтра выкладае сацыялагічныя дысцыпліны, а студэнты – будучыя сацыёлагі – праходзяць тут вучэбную практыку.

Што датычыцца ВНУ, якія таксама прымуць удзел у маніторынгу якасці навучання і выхавання навучэнскай моладзі, – па большай частцы гэта вядучыя вышэйшыя навучальныя ўстановы, дзе добра наладжана работа сацыялагічных службаў ці даследчыцкая дзейнасць на кафедрах сацыялогіі. Імі прадстаўлены ўсе рэгіёны рэспублікі. Працэдура маніторынгу, сама па сабе даволі дарагая, на першым этапе не будзе нічога каштаваць. Таму што універсітэцкім сацыёлагам давядзецца працаваць не тое каб на грамадскіх пачатках, а ў звыклых для іх рэжымах, у рамках тых работ, якія яны праводзілі дагэтуль.

Кожная вышэйшая навучальная ўстанова будзе курыраваць пэўны напрамак: адны будуць займацца праблемамі духоўнага ці патрыятычнага выхавання, другія – вывучаць адукацыйны працэс і г.д. Пры тым на прыкладзе не толькі гэтай ВНУ, а і ўсіх астатніх навучальных устаноў (пачынаючы з дзіцячых садкоў), якія ёсць у канкрэтным рэгіёне. Гэты маніторынг даволі спецыфічны і для адной сацыялагічнай службы ўяўляе сабой надта вялікі аб'ём работы. Менавіта таму ўзнікла неабходнасць праводзіць яго агульнымі намаганнямі – прыцягваць спецыялістаў з розных ВНУ.

**Іна НІКІЦЕНКА.**

## Па праекту Міжнароднага банка

***31 студзеня 2002 года быў прыняты Указ Прэзідэнта "Аб зацвярджэнні Пагаднення аб займе паміж Рэспублікай Беларусь і Міжнародным банкам рэканструкцыі і развіцця".***

Займ прызначаецца для ажыццяўлення інвестыцыйнага праекта мадэрнізацыі інфраструктуры ў сацыяльнай сферы Рэспублікі Беларусь. Праект прызначаны для аб'ектаў трох міністэрстваў – Міністэрства адукацыі, Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.

Пракаменціраваць асноўныя палажэнні інвестыцыйнага праекта мы папрасілі дырэктара рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Белінвестэнергазберажэнне" **Івана Сямёнавіча КУЛІКОВА**. Гэтая структура – выканаўца праекта.

**- Іван Сямёнавіч, раскажыце, калі ласка, якія асноўныя мерапрыемствы прадугледжваюцца ў ходзе рэалізацыі данага праекта?**

– Зазначу, што згодна Пагаднення работы па праекту будуць выконвацца па 663 будынках аховы здароўя, адукацыі і сацыяльнай абароны па ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Агульны аб'ём інвестыцый у гэты праект у 2000–2006 гадах складзе 40,43 мільёна долараў США, у тым ліку заём Міжнароднага банка складзе 22,6 мільёна долараў, уклад беларускага боку – 17,83 мільёна долараў (за кошт пазабюджэтных сродкаў).

Адзначу, што на стадыі падрыхтоўкі праекта было выкарыстана 1,5 мільёна долараў, з іх 75 працэнтаў было накіравана на мадэрнізацыю аб'ектаў адукацыі.

Праект уключае ў сябе некалькі напрамкаў. Гэта, па-першае, рэканструкцыя цеплавых пунктаў будынкаў сацыяльнай сферы – аўтаматызацыя цеплавога забеспячэння, рэканструкцыя кацельняў з пераводам іх на экалагічна бяспечнае паліва і г.д.

Па-другое, мадэрнізацыя асвятлення. Міжнародная норма асвятлення працоўнага месца – 500 люксаў, але, на жаль, мы не дацягваем і да 300 люксаў. Адсюль – дзіцячая блізарукасць, іншыя захворванні вачэй.

Трэцяя праблема – захоўванне цяпла ў памяшканнях. Як паказвае практыка, шмат цяпла губляецца з-за дрэнных вокнаў і рам.

І апошняе – павышэнне цеплаізаляцыі дахаў, рэканструкцыя лакальных цепласетак.

**- А якім чынам выбіраюцца аб'екты для ажыццяўлення гэтага праекта?**

– Для правядзення энергааўдыту наймаюцца кампетэнтныя арганізацыі. Высвятляецца перспектыўнасць аб'екта (кажучы іншымі словамі, ці будуць у школе або дзіцячым садку праз пэўны перыяд дзеці). А другі крытэрый – пралічваецца максімальная магчымасць эфектыўнасці ўкладзеных сродкаў. Бо, вядома, непажадана ўкладваць грошы ў тыя аб'екты, якія маюць здавальняючы тэхнічны стан.

Тут жа хачу адзначыць, што разам з мадэрнізацыяй аб'ектаў адукацыі паўстае і такая праблема, як перамены ў свядомасці людзей. Гэта як бы і гучна сказана, але тым не менш трэба падрыхтаваць персанал для работы ў цеплавых пунктах, для абслугоўвання новага абсталявання. Нават выдзяляюцца сродкі для правядзення ўрокаў энергазберажэння. Больш таго, прапрацоўваецца магчымасць тыя сродкі, якія будуць вызваляцца ў працэсе ажыццяўлення праекта, пакінуць на карысць школы.

**- Іван Сямёнавіч, а якія работы ўжо зроблены?**

– Мадэрнізавана асвятленне ў сталічных школах №3,88,105, 114. У шэрагу школ – №31,66, 88,107 і інш. – праведзена рэканструкцыя цеплапунктаў. У школе №105 заменены вокны. Поўнасцю аўтаматызавана кацельня ў сярэдняй школе №3 Нясвіжа.

Дарэчы, зазначу, што сталіца толькі пачала добрую справу. Рэканструкцыя і мадэрнізацыя будзе праводзіцца па аб'ектах адукацыі ва ўсіх абласцях.

**- Думаю, зразумела, што працаваць на гэтых аб'ектах павінны спецыялісты з вельмі высокай кваліфікацыяй...**

– Будуць аб'яўляцца міжнародныя конкурсныя таргі. Вызначаць пераможцу будзе тэндэрная камісія, і вызначыцца ён на аснове найменшага кошту работ пры адпаведнасці тэхнічным патрабаванням праекта. Кантроль за ўсім гэтым працэсам будзе ажыццяўляць наша прадпрыемства.

**Ала ШАЎЦОВА.**



Вольга Маханькова – вядучая актрыса Беларускага тэатра "Лялька" ў Віцебску. За ролю Недапрынцэсы ў спектаклі "Кот у ботах" яна ўдастоена абласной прэміі за лепшую жаночую ролю, сыграную ў 2001 годзе.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

## Прадаўжальнікі традыцый свайго народа

***Што значыць быць яўрэем? На такое пытанне даводзіцца адказваць кожнаму, хто прыходзіць вучыцца або вучыць у сярэднюю школу №132 Мінска. Таццяна Віталье́ўна Недасека, яе дырэктар, гаворачы ад імя свайго калектыву, сказала так: быць яўрэем - гэта значыць быць прадаўжальнікам традыцый свайго народа.***

Восем з паловай гадоў таму назад беларускім дзецям яўрэйскай нацыянальнасці прадаставілася такая магчымасць. На базе школы №132 адкрыліся класы па вывучэнню іўрыта, яўрэйскай гісторыі і культуры. Гэта адзіная на Беларусі школа з асобнымі яўрэйскімі класамі. У рэгіёнах працуюць яшчэ 19 нядзельных школ. Калі ж прыгадаць звесткі з гісторыі, дык апошняя яўрэйская школа на Беларусі была зачынена ў 30-я гады XX стагоддзя.

На мінулым тыдні на базе сярэдняй школы № 132 Мінска прайшло пасяджэнне савета па інавацыях Фрунзенскага раёна сталіцы. Тэма гучала так: "Асаблівасці работы ў нацыянальнай школе". Акрамя непасрэдных прадстаўнікоў савета па інавацыях – дырэктараў школ раёна, іх куратара, галоўнага спецыяліста ўпраўлення адукацыі і камітэта па справах моладзі Т.Я.Гірыс, у школу былі запрошаны – М.А.Шчоткіна, начальнік упраўлення адукацыі і камітэта па справах моладзі Фрунзенскага раёна, В.В.Мацюшэнка, вядучы інспектар Міністэрства адукацыі, які курыруе пытанні нацыянальных школ, і Рон Шэхтар, першы сакратар Пасольства Ізраіля на Беларусі.

Сёння ў 13 яўрэйскіх класах займаецца 300 дзяцей. Адразу заўважу, што пры наяўнасці свабодных месцаў і пры жаданні бацькоў ды дзяцей у гэтых класах могуць вучыцца і дзеці іншых нацыянальнасцей. Яўрэйскія класы носяць імя вядомага паэта свайго народа Х.Н.Бяліка. Штораніцы чатыры аўтобусы збіраюць вучняў з усіх раёнаў Мінска і прывозяць у школу, а пасля заняткаў развозяць дадому. Дзеці праводзяць у школе з 8.30 да 17 гадзін пяць дзён на тыдні. Акрамя ўласных школьных настаўнікаў, тут працуюць тры педагогі-метадысты з Ізраіля. Ад пяці да дзевяці гадзін на тыдні займае нацыянальны кампанент.

Яўрэйскія класы знаходзяцца ў асобным крыле школы, і іх знешняе афармленне вызначаецца толькі тым, што на сценах вісяць плакаты, напісаныя на іўрыце (не лічачы таго, што на першым паверсе памяшкання, побач з сімволікай Беларускай дзяржаўнасці і партрэтам прэзідэнта, размешчана ізраільская). Жыццё ж ў гэтых класах не ізалявана ад жыцця асноўнай школы.

Пасольства Ізраіль, як ініцыятар праекта, аказвае дапамогу школе з транспартам, настаўнікамі-метадыстамі па вывучэнню іўрыта, харчаваннем, летнім аздараўленнем. Ізраільскі бок таксама падараваў школе два камп'ютэрныя класы.

Падчас пасяджэння савета па інавацыях Фрунзенскага раёна сталіцы кіраўніцтва школы і яго педагагічны калектыў імкнуліся расказаць пра тыя асаблівасці сваёй работы, з якімі ім даводзіцца сутыкацца.

План правядзення знаёмства са школай быў наступны: сустрэча за "круглым сталом", дзе адбылося невялічкае азнаямленне з гісторыяй стварэння яўрэйскіх класаў у школе; затым – творчая майстэрня настаўніка, якая павінна была выявіць тыя тэхналогіі і прыёмы, якімі карыстаюцца настаўнікі школы; пасля – невялічкі канцэрт з яўрэйскімі песнямі і танцамі, а на завяршэнне, пад частаванне смачнымі масленічнымі блінамі – размова пра ўбачанае і пачутае, з каментарыямі, заўвагамі, пытаннямі.

Увесь вучэбны працэс у яўрэйскіх класах, методыка выкладання, узаемадзеянне сям'і і школы характарызуюцца традыцыямі яўрэйскага народа. У гэтым – асноўная асаблівасць. У беларускіх і ізраільскіх настаўнікаў розныя падыходы ў навучанні: мы накіраваны на веды, яны – на ўменні і навыкі, на нашых уроках дзеці прытрымліваюцца парадку, а на іх – больш разняволеныя. Сумяшчэнне гэтых двух нацыянальных падыходаў у навучанні спрыяе поўнаму раскрыццю дзіцячых здольнасцей. Настаўнікі расказвалі, якія стрыманыя да іх прыходзілі дзеці і як пад уздзеяннем іншага стылю ўзаемін паміж вучнем і педагогам яны ажывалі, станавіліся натуральнымі.

Займацца ў гэтых класах – вялікая праца. Школьнікі вывучаюць чатыры мовы – беларускую, рускую, англійскую і іўрыт. Кафедра замежных моў – іўрыта і англійскай – адна з моцных у школе. Удзельнікі пасяджэння маглі ў гэтым пераканацца, папрысутнічаўшы на ўроку іўрыта, уроку, які ўвабраў у сябе гульню, свабоду выбару і рознаўзроўневыя заданні. Штогод выпускнікі яўрэйскіх класаў паступаюць у ізраільскія ВНУ (летась такіх было 4 чалавекі), дзе ім даводзіцца здаваць адзіны шасцігадзінны экзамен на англійскай мове.

У яўрэйскіх класах адзін з самых любімых прадметаў – матэматыка. На думку кіраўніцтва школы, такім яго зрабілі абавязковыя заняткі шахматамі.

З трох прапанаваных творчых майстэрняў настаўніка – іўрыт, інфарматыка, гісторыя і літаратура яўрэйскага народа – мне давялося пабачыць інтэграваны ўрок па гісторыі і літаратуры. Знаёмства з гісторыяй праходзіла праз чытанне і аналіз газетных публікацый таго часу. Браліся газеты розных накірункаў і адшукваліся матэрыялы па неабходнай тэматыцы. Дзеці працавалі па групах, пасля дзяліліся знойдзенай інфармацыяй, рабілі высновы. Другая частка – літаратурная – зарадзіла ўрок эмоцыямі. Васьмікласнікі тэатралізавалі тэкст пісьменніка Шалом-Алейхема ў перапрацоўцы настаўніцы літаратуры А.А.Лугоўскай. Яны выконвалі свае ролі проста бліскуча. Не магу не адзначыць цудоўнае пераўвасабленне Дзімы Акамяна ў Тэўе-малочніка.

Ёсць свае асаблівасці і ў выхаваўчай рабоце. У яўрэйскіх класах святкуюць усе нацыянальныя яўрэйскія святы, адзначаюць памятныя даты з гісторыі. Трэба сказаць, што такое шанаванне сваіх звычаяў і абрадаў падштурхнула асноўную школу прыгадаць нацыянальныя беларускія святы, якія праводзяцца ўсёй школай. Вось так, ва ўзаемасувязі, ідзе адраджэнне традыцый двух народаў.

У школы ёсць свой выхад у Інтэрнет, зараз ідзе запаўненне школьнага сайта. У Інтэрнеце ўжо можна наведаць школу № 132, зазірнуць у раздзел "Школа ў школе" (яўрэйскія класы) і пагартаць фотаальбом, старонкі "Нашы настаўнікі", "Яўрэі на Беларусі", "Падзеі, святы". Вялікія магчымасці камп'ютэра і Інтэрнета тут яшчэ толькі спасцігаюць. Але ўжо плануюцца інтэрактыўныя ўрокі, бацькоўскія сходы праз Інтэрнет і г.д. Яўрэйскія бацькі вельмі заклапочаны адукацыяй сваіх дзяцей, для іх візіты ў школу, актыўны ўдзел у працэсе навучання і выхавання – натуральная справа...

Таццяна Віталье́ўна Недасека, дырэктар школы, пераканана, што менавіта ў шматнацыянальнай школе нараджаецца ідэал міру.

**Святлана КІРСАНАВА.**



## Условия проведения открытого конкурса на создание учебников по социально-гуманитарным предметам для общеобразовательных школ Республики Беларусь в 2002 г.

1. Конкурс на создание учебников по социально-гуманитарным предметам проводится в целях обеспечения общеобразовательной школы стабильными учебниками высокого качества, подготовленными в соответствии с новыми образовательными стандартами, программами и педагогическими технологиями.

2. Конкурс на создание учебников для общеобразовательной школы по социально-гуманитарным предметам проводится Министерством образования Республики Беларусь в соответствии с поручением Президента Республики Беларусь Лукашенко А.Г. и является открытым.

3. Конкурсные работы могут представлять как отдельные авторы, так и авторские коллективы.

4. На конкурс принимаются планы-проспекты рукописей, аннотации будущих изданий, а также сами рукописи учебников, разработанные по программам, утвержденным Министерством образования Республики Беларусь.

5. Конкурс проводится по следующим социально-гуманитарным предметам:

Гісторыя Беларусі старажытных часоў. 4 клас.

Гісторыя Беларусі ў сярэднія вякі (VI – XV стст.). 5 клас

Гісторыя Беларусі (XVI – канец XVIII ст ст.). 6 клас.

Гісторыя Беларусі (з канца XVIII ст. да 1917 г.). 7 клас.

Гісторыя Беларусі з 1917 г. да 1945 г. 8 клас.

Гісторыя Беларусі з 1945 г. да нашых дзён. 9 клас.

Гісторыя Беларусі ад старажытных часоў да канца XVIII ст. 10 клас.

Гісторыя Беларусі (канец XVIII – XX ст.). 11 клас.

Человек. Общество. Государство. 8 класс.

Человек. Общество. Государство. 9 класс.

Человек. Общество. Государство. 10 класс.

Человек. Общество. Государство. 11 класс.

Беларуская літаратура. 9 клас.
Беларуская літаратура. 10 клас.
Беларуская літаратура. 11 клас.

Русская литература. 9 класс.
Русская литература. 10 класс.
Русская литература. 11 класс.

6. **Первый этап конкурса** проводится с 1 апреля по 15 мая 2002 года. На этом этапе рассматриваются планы-проспекты рукописей учебников и развернутые аннотации будущих изданий, в которых указываются принципы формирования содержания учебника и способы реализации основных дидактических функций издания, структура учебника с кратким описанием основных элементов издания (основного и дополнительных текстов, методического аппарата, иллюстративного материала).

7. По итогам первого этапа конкурса отбирается не более трех наиболее перспективных планов-проспектов рукописей по каждой дисциплине, авторы которых допускаются к участию во втором этапе конкурса.

8. **Второй этап конкурса** проводится с 15 мая 2002 года по 30 декабря 2002 года. На этом этапе рассматриваются рукописи учебников, подготовленные в соответствии с представленными планами-проспектами и на основе авторских концепций учебников, отраженных в аннотациях к будущим изданиям.

9. Для проведения конкурса Министерством образования Республики Беларусь создается Конкурсная комиссия из числа ведущих специалистов образования и науки с участием представителей Министерства образования.

10. Состав Конкурсной комиссии утверждается Министерством образования Республики Беларусь. Для оценки представленных планов-проспектов рукописей учебников и развернутых аннотаций будущих изданий Конкурсная комиссия на первом этапе конкурса может привлечь учебные заведения и учреждения образования, научно-исследовательские институты.

11. Обсуждение рукописей учебников в Конкурсной комиссии на втором этапе конкурса проводится на основе трех экспертных заключений (рецензий) и личного ознакомления членов комиссии с представленными рукописями. Для проведения экспертной оценки могут привлекаться ведущие специалисты учебных и научных учреждений, секций Научно-методического Совета Министерства образования.

12. Авторы и организации, выдвигающие на конкурс планы-проспекты и рукописи учебников и учебно-методических комплексов, подают заявку в Учреждение "Научно-методический центр учебной книги и средств обучения" Министерства образования Республики Беларусь (220013, г. Минск, ул. Б.Хмельницкого, 3).

13. Срок подачи заявок на участие в конкурсе, а также материалов на первый этап конкурса заканчивается **1 мая 2002 года**, представление рукописей на второй этап конкурса заканчивается **1 декабря 2002 г**.

14. Планы-проспекты, аннотации, а в дальнейшем рукописи учебников представляются в Учреждение "Научно-методический центр учебной книги и средств обучения" Министерства образования Республики Беларусь в трех экземплярах на русском или белорусском языке.

15. К представленным рукописям учебников прилагаются:

заявка на участие в конкурсе или письмо-представление;

сведения об авторах (авторском коллективе) рукописи учебника с указанием фамилии, имени, отчества, ученой степени и звания, специальности, места работы и должности, домашнего адреса, номера служебного и домашнего телефона;

материалы предварительного общественного обсуждения (выписка из протокола совещания, заседания кафедры, педагогического Совета) о выдвижении работы на конкурс в том случае, когда она выдвигается учреждением или организацией.

16. Рукописи должны быть отпечатаны на машинке (набраны на компьютере) со стандартным шрифтом через 2 интервала на одной стороне листа стандартного размера (28–30 строк на листе по 60–65 знаков в строке).

17. Подведение итогов второго этапа конкурса осуществляется Конкурсной комиссией в течение 1 месяца после окончательного срока представления рукописей.

18. По итогам каждого этапа конкурса его участникам в течение 2-х недель высылается соответствующая выписка решения Конкурсной комиссии.

19. Участникам второго этапа конкурса при необходимости предоставляется творческий отпуск с полным сохранением заработной платы по месту основной работы.

20. Финансирование организации конкурса осуществляется Министерством образования Республики Беларусь совместно со специальным фондом Президента Республики Беларусь по социальной поддержке одаренных учащихся и студентов (по согласованию).

21. Для поощрения участников конкурса предусмотрены поощрительные денежные премии и Дипломы Министерства образования Республики Беларусь.

22. Сведения о результатах конкурса публикуются Министерством образования Республики Беларусь в республиканской печати.

Міжнародныя праекты

# Трэба здзейсніць што-небудзь важнае ў жыцці!

***У жыцці кожнага чалавека надыходзіць момант, калі яму хочацца зрабіць што-небудзь незвычайнае, вялікае, значнае, важнае. А бывае, што і абставіны дапамагаюць спраўдзіцца нашай мары. Менавіта так здарылася са мной.***

## Падрыхтоўка да марафона

Пра міжнародны конкурс у Артэку я даведалася, пабываўшы там у якасці гледача. Праграма конкурсу, людзі, арганізацыя, прырода, святочная атмасфера, паважлівае стаўленне да настаўніка, прызы – усё гэта пакінула глыбокае ўражанне. Там жа, у Артэку, нарадзілася нясмелая думка паўдзельнічаць самой. Сумненняў у тым, што справа вартая таго, не было. Але кожны хвалюецца: "Ці спраўлюся, ці мае сэнс рызыкаваць, напружвацца?"

І ўсё ж я вырашыла ўдзельнічаць! Навошта? Каб адказаць сабе на наступныя пытанні: што я магу як прафесіянал? Чаго я вартая як чалавек? Як жывуць і працуюць іншыя педагогі? Чым я магу падзяліцца з імі? Што я магу атрымаць ад іх?

Акрамя гэтага, хацелася атрымаць новыя ўражанні, завесці новыя знаёмствы. На маю думку, конкурс – гэта гульня, а гуляць я люблю і яшчэ не развучылася. "А вось і праверым!" – сказала я сабе, і пачалася падрыхтоўка.

Яна прадугледжвала збор дзіцячай каманды, стварэнне аўтарскай праграмы па псіхалогіі для гімназістаў 7-га класа, выпуск свежага нумара школьнага часопіса "Псіхалогія ў школе", падрыхтоўку трох конкурсных урокаў, напісанне артыкулаў на педагагічную тэму, распрацоўку аўтарскага вечара, для якога знята шмат сюжэтаў з жыцця гімназіі, аформлены стэнды, падабрана і запісана музычнае суправаджэнне, урэгуляваны ўсе тэхнічныя, арганізацыйныя і фінансавыя пытанні, куплены сувеніры для будучых сяброў.

І вось дзякуючы падтрымцы калег, гімназістаў і іх бацькоў, а таксама сваёй сям'і я – канкурсантка. Сэрца замірае ад захаплення і адказнасці. У мінулым – падрыхтоўчы марафон, наперадзе – конкурсная праграма, новыя ўражанні, хваляванні, знаёмствы.

## Калегі - савернікі - сябры

Нас, канкурсантаў, усяго дзесяць. Многа гэта ці мала? Якія мы? Што ўмеем? Чаго чакаем ад конкурсу? Як будзем працаваць? Гэтыя пытанні задавалі нам арганізатары конкурсу ў анкетах і мы – кожны сабе. Бо адзін для аднаго мы былі пакуль толькі "прозвішчамі і імёнамі" ў алфавітным парадку, надрукаванымі ў конкурсным буклеце.

Вельмі хутка, вечарам першага ж артэкаўскага дня, дзякуючы экскурсіі па лагеру, вечару знаёмстваў мы зразумелі, у якой цудоўнай кампаніі апынуліся. Хочацца расказаць пра ўсіх. Пачнем па парадку.

Галіна Пятроўна Азарава – настаўніца пачатковых класаў з Масквы – неверагодна абаяльны і энергічны чалавек. Шчыра і горача адстойвае свае ідэі і інтарэсы сваіх вучняў. Сябруе з бацькамі сваіх выхаванцаў і ў іх асобе мае цэлы дадатковы "клас" памочнікаў, прыхільнікаў, саюзнікаў. Вялікую ўвагу ўдзяляе пазакласнай рабоце з дзецьмі, развіццю іх маўлення, навучанню здароваму ладу жыцця, вядзе ўрокі валеалогіі.

Настаўніца матэматыкі з Петразаводска Галіна Валянцінаўна Бялова – далікатная, тонкая, чуллівая і нават пяшчотная. З любоўю і гонарам гаварылі з экрана дзеці пра сваю настаўніцу, свае поспехі пад яе кіраўніцтвам. На ўроках матэматыкі Галіна Валянцінаўна выкарыстоўвае



тэхналогію ТВВЗ (творчае вырашэнне вынаходніцкіх задач).

Маладая, прыгожая, кваліфікаваная, добрая настаўніца рускай мовы і літаратуры Ірына Аляксандраўна Бачарнікава (Харабалі, Расія). Яна валодае высокай камунікатыўнай культурай, жаданнем развівацца і ўдасканальвацца. Яе манера вядзення ўрокаў натхняе і падахвочвае вучняў. Гульнявыя метады на ўроках Ірыны Аляксандраўны вельмі апраўданыя і эфектыўныя. Ірына проста пакарыла шасцікласнікаў Артэкаўскай школы, і яны гатовы пісаць ёй лісты ў далёкі Харабалі.

Намеснік дырэктара па развіццёваму навучанню, настаўніца рускай мовы і літаратуры з Ульянаўска Наталля Мікалаеўна Галынская праводзіла конкурсныя ўрокі паралельна са мной. Таму мне не ўдалося скласці асабістага меркавання наконт прафесійнага майстэрства педагога. Затое калегі і журы былі ў захапленні ад урокаў Галынскай і вершаў яе вучняў, якія яны сачынялі непасрэдна на занятках. Наталля Мікалаўена – прыхільнік развіццёвага навучання. Яе ўласнае дзіця, з якім займаліся па гэтай тэхналогіі, – самы лепшы аргумент на карысць развіццёвага навучання.

Вядома, усе былі рады, што на конкурс прыехалі настаўнікі-мужчыны. Ды яшчэ такія, як Мікалай Барысавіч Кулікоўскі з Запарожжа. Ён жартам называе сябе "Ельцын наадварот". Мікалай Барысавіч прывёз з сабой тры чамаданы прыбораў, зробленых з вучнямі і для вучняў. Як гаварыў ён сам: "Я – праціўнік "крэйдавай" фізікі!" І, зразумела, мы ўсе таксама – за прыборы і доследы, асабліва пасля расказу настаўніка пра тое, як аднойчы адзін з лепшых яго вучняў прызнаўся, што ён толькі тады зразумеў матэрыял, калі самастойна зрабіў прыбор і правёў дослед.

Алена Вітальеўна Падзерына – настаўніца фізікі з Ульянаўска. Гэтая жанчына – незвычайна сціплы, карэктны, тонкі і глыбокі педагог, які падрыхтаваў шмат таленавітых вучняў. Гімназія №1, дзе працуе і сама вучылася Алена Вітальеўна, паважліва і мудра захоўвае памяць пра некалі яркі і значны факт нашай гісторыі, што ў іх навучальнай установе вучыўся чалавек, які паўплываў на ход сусветнай гісторыі – У.І.Ульянаў-Ленін.

Аляксандр Анатольевіч Півавараў – настаўнік фізікі і астраноміі (Арлоў, Расія) – кандыдат педагагічных навук, арыгінальны, захоплены паэзіяй, музыкай, астраноміяй і філасофіяй чалавек. Яго аўтарскі вечар праходзіў познім вечарам у "Альтанцы слёз" пад адкрытым небам і суправаджаўся музыкай, вершамі, сузіраннем зорак і рамантычным настроем. На сваіх уроках Аляксандр Анатольевіч стараецца наблізіць фізіку да жыцця, таму прапануе вучням задачы, якія ўтрымліваюць канкрэтныя жыццёвыя праблемы. Настаўнік стварае для школьнікаў алгарытмы рашэння задач, якія дазваляюць выхоўваць культуру мыслення.

Настаўнік матэматыкі і інфарматыкі з Астрахані Віктар Барысавіч Сераглазкін (В кропка, Б кропка, як ён сябе называе). Віктар Барысавіч – самы арыгінальны, самы добры, самы цудоўны, самы-самы настаўнік нашага падсемінара. Калі б ізноў у школу, то я хацела б вучыцца ў такога настаўніка, як Сераглазкін. Сказаць, што дзеці яго любяць – значыць нічога не сказаць, яны ім захоплены. Я разумею іх пачуцці. Тлумачыць даходліва, з гумарам, з жыццёвымі прыкладамі, жартуе, хваліць, і адначасова ўсё – на высокім навуковым узроўні, кваліфікавана, з любоўю да вучняў. Ды і з творчасцю ў Віктара Барысавіча ўсё ў парадку, смеласці і вынаходлівасці яму не пазычаць. На камп'ютэрах Карветах стварае музычна-графічныя комплексы. Атрымліваецца цудоўна. Аўтарскі вечар прайшоў на "ўра", конкурсныя ўрокі былі выдатныя, на семінарскай праграме да яго прыслухоўваліся.

Вельмі сціплы і вельмі кампетэнтны педагог з Вінніцы Паўліна Рыгораўна Прылуцкая выкладае матэматыку займальна, арыгінальна. Працуе па ўласнаму падручніку. За сорак пяць хвілін здолела стомленыя і безуважныя твары старшакласнікаў ператварыць у натхнёныя і зацікаўленыя.

## А суддзі хто?

Не бывае конкурсу без журы, і тыя, хто думае, што ім лягчэй, чым канкурсантам, памыляюцца. Нашаму кампетэнтнаму і добразычліваму журы даводзілася кожны дзень глядзець і аналізаваць па чатыры конкурсныя ўрокі, па два аўтарскія вечары, чытаць лекцыі і адказваць на пытанні, наведваць лекцыі калег, семінарскую праграму, чытаць і рэцэнзаваць нашы артыкулы на педагагічныя тэмы, размаўляць з намі і пры гэтым заставацца аб'ектыўнымі, працаздольнымі, сімпатычнымі, усмешлівымі людзьмі, якія не баяцца цяжкасцей. Хто ж яны?

Па-першае, гэта Валянціна Уладзіміраўна Будкевіч – доктар педагагічных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М.Танка, загадчыца кафедры педагогікі і псіхалогіі пачатковага навучання. Зразумела, у мяне былі асаблівыя пачуцці да Валянціны Уладзіміраўны, бо мы прадстаўлялі адну краіну. Сцяг Беларусі – каля яе рабочага месца і майго. Хоць мы знаходзіліся па розныя бакі "барыкад", мы былі аб'яднаны адказнасцю і сімпатыяй.

А таксама доктар псіхалогіі, прафесар узроставай псіхалогіі гуманітарнага і медыцынскага факультэтаў Рымскага ўніверсітэта Марыя Серэна Веджэці; дырэктар артэкаўскай сярэдняй школы, заслужаны работнік народнай адукацыі Украіны Мікалай Аляксандравіч Пярвухін; пераможца апошняга Міжнароднага конкурсу настаўнікаў у Артэку Аляксандр Барысавіч Фядосаў.

Да госці з Італіі мы звярталіся проста па імені – Серэна. Гэта было незвычайна і прыемна. Серэна – стрыманы, карэктны, абаяльны і, як мне падалося, тонкі і летуценны чалавек. Нягледзячы на моўны бар'ер, узаеміны з ёй былі вельмі прыемнымі. На памяць Серэна Веджэці падарыла дарагі для мяне сувенір – італьянскую грашовую купюру з партрэтам Марыі Мантэсоры на адным баку і з выявай дзяцей на другім. Радасна было бачыць, што педагог можа быць адлюстраваны на купюры гэтак жа, як прэзідэнт або іншы, вельмі важны для краіны чалавек.

## Расклад на пятнаццаць дзён

Конкурсная праграма для настаўнікаў – гэта дні напружанай і радаснай працы, прафесійных і сяброўскіх узаемін, вучобы, творчасці, адкрыццяў. Усё наша жыццё ў Артэку было распісана па хвілінах. План жыцця на бліжэйшыя шчаслівыя пятнаццаць дзён быў у кожнага на руках і на спецыяльным стэндзе ў штаб-кватэры конкурсу – кабінеце 307-й артэкаўскай школы. Гасцінныя гаспадары – аддзел параўнальнай адукацыі, яны ж і арганізатары нашых педагагічных спаборніцтваў, памочнікі, натхняльнікі, сябры. Юрый Мікалаевіч Краўчанка, Наталля Мікалаеўна Царкова, Марыя Міхайлаўна Сакалова, Вольга Леанідаўна Майсеева, Вікторыя Сяргееўна Гармаш былі вельмі ўважлівымі і клапатлівымі да нас, канкурсантаў, рабілі ўсё магчымае і немагчымае для таго, каб кожны педагог мог цудоўна выступіць, быў бадзёрым і радасным.

Хто сёння дае ўрок, было вядома ўжо ў сем гадзін раніцы па адсутнасці канкурсанта на ранішнім марскім купанні і некранутым сняданку ў кафэ "Вясёлка" (дарэчы, кармілі нас смачна).

Мяне пакарылі ўрокі геаметрыі і інфарматыкі Віктара Барысавіча Сераглазкіна з Астрахані. Урок геаметрыі быў пабудаваны на развенчванні сафізмаў. Настаўнік папярэдзіў, што цэлы ўрок будзе падманваць, а дзеці павінны вызначыць няпраўду. Колькі дасціпнасці, знаходлівасці, творчага выкарыстання тэарэтычных ведаў спатрэбілася вучням! Яны разважалі, шукалі, даказвалі. Ім было цікава падбіраць неверагодна складанай формы латкі, каб прывесці ў парадак старое футра. Такім чынам вырашаліся тэарэтычная, практычная і выхаваўчая задачы – лёгка, прыгожа, без прымусу.

Віды алгарытмаў на інфарматыцы настаўнік тлумачыў з дапамогай розных жыццёвых сітуацый, і тут жа вучні станавіліся іх удзельнікамі і сведкамі. Так, адзін хлопчык ператварыўся ў робата, і мы ўсе хваляваліся, ацэньваючы каманды лінейнага алгарытма, якія даваліся дзяўчынкай, якая павінна была давесці "робата" да яго парты і ўсадзіць. На гэтым жа ўроку адбыўся конкурс камп'ютэрнага малюнка, прысвечанага Артэку. Мне і кіраўніку семінарскай праграмы Алене Канстанцінаўне Маранцман быў аказаны асаблівы давер – ацэньваць малюнкі дзяцей. Вядома, усе былі пераможцамі, але ў розных намінацыях. Удзельнікі конкурсу былі ўзнагароджаны шакаладкамі "Марс" і пачувалі сябе незвычайна шчаслівымі.

Міжнародны конкурс у Артэку змясціў у сабе цікавую семінарскую і культурную праграмы. Семінарскай праграмай кіравалі творчыя, абаяльныя і кампетэнтныя спецыялісты Алена Канстанцінаўна Маранцман, кандыдат псіхалагічных навук, дацэнт кафедры педагогікі і псіхалогіі Расійскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя А.І.Герцэна і Таццяна Аляксандраўна Сідарчук, кандыдат педагагічных навук, загадчык кафедры педагагічных тэхналогій Ульянаўскага сацыяльна-педагагічнага каледжа, дыпламаваны спецыяліст па ТВВЗ. Семінарская праграма ўключала ў сябе лекцыі членаў журы і кіраўнікоў праграмы, дыскусіі, круглыя сталы. Мы абмяркоўвалі тэмы, актуальныя для педагогаў – удзельнікаў конкурсу, якія яны самі акрэслілі ў анкетах, прапанаваных арганізатарамі. Абмеркаванне праходзіла бурна і эмацыянальна – аўдыторыя была неабыякавая. Алена Канстанцінаўна і Таццяна Аляксандраўна, накіроўваючы нашы дыскусіі, былі непаўторнымі і вынаходлівымі, дадавалі досціпаў і яркіх фарбаў у абмеркаванне. Прыемна і забаўна было разважаць, якога колеру павінен быць настаўнік, ці абавязаны ён быць творцам або тэхнолагам, спаборнічаць з вучнямі ў сачыненні новага заканчэння казкі Г.Х.Андэрсена пра "Стойкага алавянага салдаціка", угадваць вобразы ў лініях, параўноўваць сваё ўспрыманне з дзіцячым і атрымліваць салодкі прыз у выпадку супадзення, клапатліва падрыхтаваны Аленай Канстанцінаўнай. А пасля завяршэння адукацыйнай праграмы нас чакаў сюрпрыз – пасведчанне аб заканчэнні курсаў павышэння кваліфікацыі.

Важатым нашага педагагічнага "атрада" і адказным за культурную праграму, а таксама першым чалавекам, які сустрэў мяне ў Артэку і дапамог несці шматлікія чамаданы і сумачкі, тубус, парасон, турысцкія дываны, спальнікі (перад Артэкам мы былі на экскурсіі ў Кіеве) быў вясёлы і нястомны Раман Барысавіч Граноўскі. Ён правёў з намі цікавую экскурсію па тэрыторыі Артэка, падказаў наведаць унікальны артэкаўскі музей космасу, суправаджаў і ахоўваў на марской прагулцы ў неспакойным моры, у басейне, на экскурсіях у Ялту і Севастопаль, разам з намі любаваўся Фароскай царквой, Херсанесам, Лівадзійскім і Варанцоўскім палацамі.

## Пад нумарам сем...

Нарадзілася я сёмага студзеня, мой любімы лік – сем, і ў конкурснай праграме маё імя стаяла пад нумарам сем. Падумалася, што мой конкурсны лёс павінен скласціся добра. Для правядзення сваіх урокаў выбрала другі тыдзень конкурсу. Я – адзіны настаўнік псіхалогіі ў падсемінары. Адчуваю вялікую адказнасць, хвалююся, бо тэма першага ўрока не з лёгкіх – "Сям'я як школа любові". Хацелася стварыць такую атмасферу, каб дзецям і думалася, і гаварылася, і проста было прыемна на ўроку. Свечка, музыка, відэазапіс, успаміны, карцінкі, плакаты дапамаглі мне стварыць прыгожы і лірычны ўрок. Дзеці былі далёка ад дома і таму адчувалі асаблівыя пачуцці, гаворачы пра свае сем'і. Самая чуллівая, Верачка, раняла светлыя слёзы, расказваючы пра сваю любімую сястрычку. Усе зразумелі нешта вельмі важнае: што такое для кожнага яго сям'я, як яны любяць сваіх родных, як даражаць імі; са здзіўленнем даведаліся пра віды любові ў сям'і і вырашылі, што гэтыя веды спатрэбяцца ім у жыцці. У канцы ўрока мы зрабілі здымак на памяць. Дзеці паспрабавалі паказаць на сваіх тварах тыя пачуцці, якія яны будуць адчуваць, калі вернуцца дадому. Гэта была радасць.

Другі ўрок, "Слуханне як від маўленчай дзейнасці", выявіў, што слуханню не пашанцавала больш за ўсё. Аказваецца, нас вучылі і вучаць гаварыць, чытаць, пісаць. А слухаць? Вучні пераканаліся, што слуханню трэба вучыцца, бо вучоныя на аснове эксперыментальных даных сцвярджаюць, што 45 працэнтаў нашых узаемін – гэта слуханне. Гімназісты і самі правялі эксперымент на прадмет магчымасці сумяшчэння такіх відаў маўленчай дзейнасці, як слуханне і гаварэнне, даведаліся, колькі існуе відаў слухання, якія яны слухачы і як развіваць уменне слухаць. На ўроку дзеці малявалі "касмічныя" відарысы, карыстаючыся рознымі відамі слухання, а потым параўноўвалі іх дакладнасць. Яны пераканаліся на практыцы, як карысна ўмець слухаць.

Трэці ўрок – самы цяжкі, бо яго неабходна правесці не са сваімі дзецьмі, а з вучнямі мясцовай школы або вучнямі – гасцямі Артэка. Я выбрала шасцікласнікаў з Гурзуфа. Урок псіхалогіі быў для іх першым у жыцці. Гэта і прыемна, і вельмі адказна. Перада мной стаяла задача зрабіць яго цікавым, даступным, інфарматыўным. Ключом да формы ўрока стаў выраз "прыгоды ў класным пакоі". Даведваліся мы пра тое, што ж такое ўзаеміны, не баючыся прыгод, гуляючы, малюючы, назіраючы за сабой і таварышамі, нават спявалі. Дзеці былі актыўнымі і эмацыянальнымі. У канцы ўрока яны ўжо ведалі, што ўзаеміны – гэта абмен інфармацыяй, узаемадзеянне і разуменне чалавека чалавекам. Назіраючы адзін за адным, вучні зразумелі, што дапамагае, а што перашкаджае ўзаемінам. Лічу, што ўрок атрымаўся, бо дзеці запрашаюць прыязджаць яшчэ і праводзіць новыя ўрокі.

Апошні конкурсны ўрок закончаны. Прыгожая кропка – фатаграфія на памяць. Застаўся аўтарскі вечар. Страшнавата. Урокаў у сваім жыцці я праводзіла шмат, а вось аўтарскіх вечароў – ніводнага. Сцэнарый прыдумала цяжкі для ўвасаблення, з удзелам маіх адважных і вынаходлівых гімназістаў. Яны павінны былі разам са мной спяваць, расказваць, паказваць гульнявыя практыкаванні, іграць ролі, ведаючы, што мяне і іх ацэньваюць кампетэнтныя гледачы. Усё атрымалася. Прыгожыя кадры відэафільма пра Беларусь, Мінск, гімназію, падарожжа ў часе з дапамогай чароўных цукерак, песні ля імправізаванага вогнішча з сапраўднымі дровамі, аповед аб вопыце выкладання псіхалогіі ў гімназіі, дэманстрацыя аўтарскай праграмы для сямікласнікаў, маіх публікацый, школьнага псіхалагічнага часопіса "Псіхалогія ў школе" з тэкстамі вучняў зрабілі наш аўтарскі вечар інфарматыўным і не падобным да іншых.

***

Незабыўным стала ўзыходжанне на гару Аю-Даг канкурсантаў, дзе на вяршыні мы пакінулі свае камяні выканання жаданняў, якія цягнулі знізу. Нашы праваднікі прапанавалі нам агледзець навакольную мясцовасць зверху, частуючы шампанскім. Наверсе быў незвычайны, узняты настрой, хацелася спяваць і чытаць вершы, размаўляць у думках з гарой і ўпітваць яе энергію. Усе, хто ўзняўся, былі радаснымі і шчаслівымі. У мінулым ужо сур'ёзныя іспыты на прафесіяналізм, чалавечнасць, творчасць; наперадзе – уручэнне дыпломаў, завяршэнне работы падсемінара і крышку сумнае вяртанне дадому, бо мы сталі добрымі сябрамі, якія, на жаль, жывуць ужо ў розных краінах. А пакуль нам добра, мы разам, мы пакарылі вяршыню...

**Святлана РАДЗЬКОВА,**
**настаўніца псіхалогіі**
**Мінскай педагагічнай гімназіі.**

НА ЗДЫМКУ: С.У.Радзькова разам са сваімі гімназістамі ў "Артэку".

Абмен вопытам

# У пошуку "залатога руна"

***У рамках дагавора аб супрацоўніцтве, заключанага паміж тэрытарыяльным упраўленнем Краснасельскага адміністрацыйнага раёна Санкт-Пецярбурга і выканаўчым камітэтам Гомеля, і ў мэтах абмену вопытам работы дэлегацыя кіраўнікоў школ абласнога цэнтра ў складзе семнаццаці чалавек у лютым гэтага года знаёмілася з сістэмай работы адукацыйных устаноў Санкт-Пецярбурга.***

Шырокая настаўніцкая аўдыторыя нашай рэспублікі пастаянна суадносіць сваю дзейнасць з дасягненнямі педагагічнай навукі і адукацыйнай практыкі Расійскай Федэрацыі. Перыядычныя падпісныя выданні, навукова-педагагічныя манаграфіі, публікацыі з'яўляюцца крыніцай інавацыйных пераўтварэнняў для нашай школы.

Калі на ўзроўні кіраўнікоў адміністрацый Навабеліцкага (Гомель) і Краснасельскага (Санкт-Пецярбург) раёнаў, Пятра Аляксеевіча Кірычэнкі і Вячаслава Васільевіча Фралова, усталяваліся кантакты сацыяльна-эканамічнага плана, у першую чаргу гэтым зацікавіліся кіраўнікі адукацыі абодвух рэгіёнаў. Прычым інтарэс гамяльчан да ініцыятывы Навабеліцкага раёна, жаданне далучыцца да вялікай культуры, годна прадставіць свае педагагічныя дасягненні абумовілі змяненне маштабу ўзаемадзеяння: дагавор аб пабрацімскіх сувязях з беларускага боку быў пашыраны да гарадскога ўзроўню, 9 верасня з нашага боку яго падпісаў Л.В.Барабанаў, старшыня Гомельскага гарвыканкама.

Педагагічная праца – сфера нематэрыяльнай вытворчасці. Работа настаўніка – гэта пастаянная творчасць, пошук, канструяванне адукацыйнага працэсу. У ёй – важныя ідэі, установкі, напрамкі і падыходы да развіцця, новыя спосабы і прыёмы навучання і выхавання, формы арганізацыі ўзаемін педагога і вучня. Значнасць інавацыйных пераўтварэнняў, накіраванасць вектара развіцця, канчатковыя вынікі ад новых адукацыйных тэхналогій можа ацаніць толькі калега – эксперт, аднадумца, педагог, які шукае, гатовы ехаць у нябліскі свет за "залатым рунам" вопыту як стымулам да далейшага прафесійнага самаўдасканалення.

У Гомелі разумелі: каб зацікавіць педагогаў знакамітага горада, неабходна на належным узроўні прадставіць ім свой вопыт. У лістападзе мінулага года на беларускай зямлі сустракалі дэлегацыю кіраўнікоў агульнаадукацыйных устаноў і спецыялістаў аддзела адукацыі Краснасельскага адміністрацыйнага раёна Санкт-Пецярбурга ў складзе дванаццаці чалавек. За чатыры дні пецярбуржцы азнаёміліся з дзейнасцю трынаццаці адукацыйных пляцовак. Захаваная сетка дашкольных устаноў, бясплатныя варыятыўныя адукацыйныя паслугі ў школах, магутная спартыўная база, адладжаны ўсенавуч, энтузіязм і творчасць педагогаў, сацыяльная абароненасць дзяцей з праблемных сем'яў, кантроль за якасцю ведаў вучняў, сістэма падтрымкі таленавітых школьнікаў былі высока ацэнены расіянамі. Стала зразумела: у асобе педагогаў Гомеля яны знайшлі цікавых для далейшых узаемін і працяглага супрацоўніцтва калег. Тое, што мы – людзі адзінай ментальнасці, пацвярджалі цёплыя сустрэчы ў калектывах, вынікі нефармальных стасункаў, адзінства прафесійных, сацыяльных і палітычных інтарэсаў. Самыя лепшыя ўзоры педагагічнай дзейнасці былі прадстаўлены гасцям як рэсурснае суправаджэнне найбольш прадуктыўнай прафесійнай дзейнасці настаўнікаў-гамяльчан і ў форме тэарэтычных абагульненняў і напрацовак уручаны ў якасці падарункаў. Пецярбуржцы перадалі нам прадукцыю сваёй выдавецкай педагагічнай дзейнасці.

Не прайшло і двух месяцаў, як дэфіцыт узаемін выклікаў запрашэнне ў адказ. Дэлегацыя ў складзе семнаццаці чалавек, у тым ліку чатырнаццаць дырэктараў школ, 5 лютага гэтага года выехала ў Санкт-Пецярбург.

Прынцып выбару членаў дэлегацыі з Гомеля прадугледжваў улік зваротнай сувязі: ехалі кіраўнікі, педкалектывы якіх сустракалі ганаровых гасцей і знаёмілі іх з асаблівасцямі сваёй работы.

На вызначаных праграмай чатырохдзённай работы адукацыйных пляцоўках Краснасельскага раёна Санкт-Пецярбурга беларускую дэлегацыю прымалі кіраўнікі, якія прыязджалі ў Гомель у лістападзе 2001 года. Сімвалічна, што першую школу (№394), у якую прывезлі беларускіх педагогаў, узначальвала Валянціна Васільеўна Аляксандрава, гамяльчанка па паходжанні, якая пачынала свой прафесійны шлях у сярэдняй школе №8 (цёплая сустрэча з цяперашнім дырэктарам гэтай школы Т.І.Жадзько-Кліменка адбылася ўжо на пецярбургскай зямлі). Установа, якой кіруе Валянціна Васільеўна, рэалізуе канцэпцыю інтэлектуальнага, духоўнага і фізічнага развіцця дзяцей. Асноўная праблема, над вырашэннем якой працуе педагагічны калектыў, – гуманізацыя адукацыйнага працэсу, актыўнае ўключэнне вучняў у соцыум.

Агульнае ўяўленне пра сацыяльна-эканамічнае, гістарычнае, геаграфічнае і грамадска-культурнае развіццё рэгіёна члены дэлегацыі атрымалі падчас сустрэчы з кіраўніком тэрытарыяльнага ўпраўлення Краснасельскага адміністрацыйнага раёна Санкт-Пецярбурга Вячаславам Васільевічам Фраловым. Спецыфіка раёна ў тым, што 70 працэнтаў бюджэту раёна – гэта сфера адукацыі, якая прадстаўлена 40 школамі, 60 дашкольнымі ўстановамі, недзяржаўнай Акадэміяй права і бізнесу, якая рэалізуе мадэль бесперапыннай адукацыі, пачынаючы з прагімназіі і заканчваючы шостай ступенню – павышэннем кваліфікацыі выпускнікоў каледжа і акадэміі.

У раёне працуе больш як 6500 педагогаў. Школы маюць права выбіраць адзін з трох варыянтаў планавання, зацвердзіўшы яго на школьнай метадычнай нарадзе. 90 працэнтаў дадатковых адукацыйных паслуг з'яўляюцца платнымі (у дашкольных установах – 65 працэнтаў). Таму асноўная ідэя Канцэпцыі і праграмы развіцця раённай адукацыйнай сістэмы на 2000-2004 гады – аптымізацыя кіраўнцкага механізма на аснове стварэння ўмоў для фінансавай самастойнасці ўстаноў.

Для работнікаў метадычнай службы цікава будзе даведацца, што ў Расійскай Федэрацыі існуе некалькі палажэнняў, якія рэгламентуюць работу гэтай структуры сістэмы павышэння кваліфікацыі. Адукацыйныя ўстановы Краснасельскага раёна абслугоўваюць два цэнтры: навукова-метадычны і вучэбна-метадычны інфарматызацыі. Такі статус дазваляе мець выдавецкія магутнасці, камплектаваць штат, зыходзячы з суадносін "адзін метадыст на 200 педагогаў", а таксама дае права займацца павышэннем кваліфікацыі настаўнікаў, арганізуючы мэтавыя, тэматычныя, праблемныя і аўтарскія курсы з выдачай адпаведнага пасведчання. Атэстацыя педагогаў таксама ўваходзіць у функцыянальныя абавязкі метадыстаў.

Аднак атрыманне статуса навукова-метадычнага цэнтра магчыма толькі пры наяўнасці ў штаце спецыяліста, які мае вучоную ступень.

У лік платных адукацыйных паслуг уваходзяць усе запатрабаваныя бацькамі і вучнямі факультатывы, спецкурсы, спецсемінары, новыя прадметы, узроўні навучання, якія не прадугледжаны статусам адукацыйнай установы. Так, напрыклад, другая замежная мова ў школах Краснасельскага раёна – паслуга платная (акрамя сярэдняй школы №200 з паглыбленым вывучэннем фінскай і грэчаскай моў).

Для таго, каб вызначыць статус установы адукацыі або пацвердзіць яго, у Санкт-Пецярбургу існуе строгая сістэма акрэдытацыі і атэстацыі. Атэстацыю праходзяць усе ўстановы адукацыі праз кожныя пяць гадоў. Якасць навучання і выхавання вызначаецца на аснове мабільнага гарадскога адукацыйнага стандарта. На працягу года шляхам тэсціравання і анкетавання пэўнай групы вучняў са школ, якія праходзяць атэстацыю, незалежныя эксперты вызначаюць сярэднегадавы паказчык для крытэрыяў дыягнастычных матэрыялаў, які з'яўляецца нормай для работы атэстацыйнай камісіі на наступны вучэбны год.

Школа можа ўстанавіць і свой рэжым работы: пяці- або шасцідзённы вучэбны тыдзень. Так, напрыклад, максімальны аб'ём вучэбнай нагрузкі вучня пры шасцідзённым тыдні ў базісным плане складае ў пачатковай школе 25 гадзін, у сярэдняй – 35, у старшым звяне – 36 гадзін (пры пяцідзённым адпаведна – 22, 32, 33 гадзіны).

Багатая культурна-гістарычная спадчына Санкт-Пецярбурга стала адной з умоў для стварэння ў 1990 годзе Расійскага цэнтра музейнай педагогікі і дзіцячай творчасці на базе Дзяржаўнага Рускага музея, з дзейнасцю якога члены беларускай дэлегацыі азнаёміліся ў ходзе візіту. Задачай цэнтра з'яўляецца стварэнне навукова абгрунтаванай сістэмы ўзаемадзеяння культуры і адукацыі, якая ўключае эстэтычнае развіццё дзяцей, вывучэнне гісторыі мастацтва, сацыяльную адаптацыю дзяцей з адхіленнямі ў развіцці на аснове творчай дзейнасці (арт-тэрапія). У цэнтры распрацавана шматузроўневая праграма "Дзень добры, музей!", якая ўкараняецца сёння ў дваццаці рэгіёнах Расіі. Праграма забяспечана вучэбна-метадычным комплексам (вучэбныя дапаможнікі, слайды, відэакасеты, мультымедыйныя кампакт-дыскі). Для вывучэння курса ў базавым вучэбным плане адводзіцца адна-дзве гадзіны на тыдзень, акрамя таго, школьнікі атрымліваюць дадатковыя веды і развіваюць свае здольнасці на пазакласных мерапрыемствах. У рэчышчы доўгатэрміновай праграмы супрацоўніцтва прадугледжаны ўдзел школьнікаў Гомеля ў алімпіядзе "Гісторыя і культура Санкт-Пецярбурга" праз інфармацыйную сетку Інтэрнет.

Вядома, гэтая паездка была б незавершанай без культурнай праграмы. І гэта ўлічылі гасцінныя гаспадары.

Дырэктары з удзячнасцю ўспрынялі сапраўды "царскія" падарункі, прадстаўленыя тэрытарыяльнай адміністрацыяй Краснасельскага раёна: наведванне Екацярынінскага палаца і Царскасельскага ліцэя ў Пушкіне, Дзяржаўнага Рускага музея, прагляд спектакля "Не ўсё кату масленіца..." А.М.Астроўскага ў Расійскім дзяржаўным акадэмічным тэатры драмы імя А.С.Пушкіна.

Ужо ў час дзелавых сустрэч абодвум бакам стала зразумела, што гэтыя кантакты неабходна развіваць, таму што і беларусы, і расіяне зацікавіліся вопытам работы адзін аднаго. Акрамя таго, такія стасункі могуць падрыхтаваць глебу для далейшых працэсаў інтэграцыі адукацыйных сістэм з улікам перспектывы аб'яднання дзвюх дзяржаў. Таму пасля візіту была распрацавана праграма доўгатэрміновага супрацоўніцтва, якая ахоплівае сферы дашкольнай і школьнай адукацыі, кіраўніцкай дзейнасці, выхаваўчай работы ў школах і пазашкольных установах. Праграмай прадугледжаны двухбаковыя кантакты на розных узроўнях – на ўзроўні загадчыкаў аддзелаў адукацыі, кіраўнікоў устаноў, педагогаў і вучняў.

Для школьнікаў плануецца арганізацыя фестывалю тэатральных мастацтваў, алімпіяд, пасяджэнняў дэбат-клуба, выставак дзіцячых малюнкаў, сумесных даследчых праектаў.

Такое супрацоўніцтва працягвае шматгадовыя гістарычныя традыцыі і пацвярджае той факт, што два брацкія народы жыць паасобку не могуць!

**Наталля ЖГІРАВА,**
**намеснік загадчыка аддзела адукацыі і па справах моладзі Гомельскага гарвыканкама;**

**Зінаіда КАНЦАВАЯ,**
**загадчыца гарадскога вучэбна-метадычнага кабінета.**

